221

# НАВІНКІ

25 верасьня - 2 кастрычніка 2002 Кошт свабодны

№18(67)

Яшчэ пара-тройка такіх рэнэгатаў-бізнэсмэнаў — і нам хопіць на нацыянальна-вызвольнае паўстаньне!

# «Беларускае Вызвольнае Войска» адпусьціла закладніка – віцэ-прэзыдэнта «Лукойлу». Выкуп заплочаны, чакайце рэвалюцыі.

Працяг тэмы на стар. 2

Газэта «Навінкі» выходзіць зь лютага 1998 г. Зарэгістраваная ў Дзяржаўным камітэце па друку Рэспублікі Беларусь 23.02.1999 г. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі №1272. Заснавальнікі: П.Канавальчык, А.Новікаў, А.Мазур. Галоўны рэдактар Паўлюк Канавальчык. Адрас для карэспандэнцыі: п/с 33, 220134 Менск, БЕЛАРУСЬ; E-mail: navinki@navinki.net; Адрас рэдакцыі: г.Менск, пр.газ.«Известия», 9-143.

Нумар падпісаны да друку 4.09.2002г., а 00.01. Тыраж 3000 экз. Надрукавана з гатовых дыяпазытываў у друкарні ТДА «Знаменіе», г. Менск, вул. Кальварыйская, 24. Заказ №193

## Навінкі ў тЭстах

### Ці ў курсе вы апошніх падзеяў?

**1. З чым павіншаваў Аляксандар Лукашэнка караля Саудаўскай Аравіі Фахда Бэн Абдэль Азіза Аль Сауда і насьледнага прынца Абдалу Бэн Абдэль Азіза Аль Сауда?**
А) З днём каралеўства
Б) Са шлюбам
В) З разводам

**2. У якую краіну накіравалі свае войскі ЗША ў сувязі са спробай дзяржаўнага перавароту?**
А) Кот д'івуар
Б) Папуа Новая Гвінэя
В) Беларусь

**3. Што абвесьцілі 50 дэпутатаў украінскага парляманту, пратэстуючы супраць палітыкі прэзыдэнта Кучмы?**
А) Галадоўку
Б) Абжыралаўку
В) Незалежнасьць

**4. Ува што будуць перайменаваныя школы міліцыі ў Магілёве й Баранавічах?**
А) У ліцэі
Б) У каледжы
В) У хаты-чытальні

**5. З чым будзе змагацца новы орган правапарадку, што мусіць неўзабаве зьявіцца ў Расеі?**
А) З наркотыкамі
Б) З карупцыяй
В) Зь міліцыяй

**6. Саміт якой арганізацыі распачаў працу ў Варшаве?**
А) NATO
Б) АБСЭ
В) БРСМ

**7. Інтэрвію якой тэлекампаніі даў у мінулы аўторак прэзыдэнт Аляксандар Лукашэнка?**
А) MTV
Б) VIVA+
В) BBC

**8. Што распачынаюць з 1 кастрычніка прыватныя прадпрымальнікі Беларусі?**
А) Запой
Б) Рэвалюцыю
В) Страйк

**9. Які дэвіз акцыі пратэсту, што зьбіраюцца правесьці апазыцыйныя сілы ў лістападзе?**
А) Мір! Труд! Май!
Б) Беларусь! Дэмакратыя! Дабрабыт!
В) Расея! Дыктатура! Галеча!

**10. Хто абнародаваў дасье супраць прэзыдэнта іраку Садама Хусэйна?**
А) Тоні Блэр
Б) Джордж Буш
В) Аляксандар Лукашэнка

**11. Для каго прадназначаная новая перадача польскага тэлебачаньня зь вядучым Лехам Валенсам?**
А) Для дамахазяек
Б) Для рыбакоў
В) Для дачнікаў

**12. ПАСЭ стварыла адмысловую камісію па пошуку:**
А) Золата
Б) Брыльянтаў
В) Зьніклых палітыкаў

**13. Які вядомы пісьменьнік быў днямі зьбіты невядомымі?**
А) Адам Мальдзіс
Б) Васіль Быкаў
В) Дунін Марцінкевіч

**Правільныя адказы**: 1-А, 2-А, 3-А, 4-Б, 5-А, 6-А, 7-В, 8-В, 9-Б, 10-А, 11-Б, 12-В, 13-А.

# Бел-чырвона-белы кіднэпінг

## *Віцэ-прэзыдэнта «Лукойла» выкралі баевікі Беларускага Вызвольнага Войска*




Справа аб выкраданьні віцэ-прэзыдэнта нафтавай кампаніі «Лукойл» Сяргея Кукуры, якога невядомыя злоўмысьнікі тармазнулі 12 верасьня на шашы Ўнукава-Масква, раптам атрымала нечаканы паварот.

У рэдакцыю *Комсомольской правды* патэлефанаваў невядомы й на ламанай расейскай мове паведаміў, што адказнасьць за кіднэпінг віцэ-прэзыдэнта «Лукойла» бярэ на сябе прыснапамятнае «Беларускае Вызвольнае Войска». Новая акалічнасьць зблытала ўсе карты сьледчым, якія схіляліся да думкі, што нехта проста пажартаваў: Кукуру «выкралі» ягоныя сябры і цяпер яны разам бухаюць на чыёй-небудзь дачы, пасьміхаючыся з лабухаў-мянтоў.

Дарэчы, гэта першая згадка пра БВВ за апошнюю пяцігодку. Першай гучнай справай палітычнага картэлю стаў выбух на газаправодзе Таржок-Менск-івацэвічы ў 1997 годзе. Іх таксама падазраюць у арганізацыі выбуху каля будынку Цэнтральнага райсуда ў г.Менску. Цяпер экстрэмісты вырашылі пайсьці далей, да таго ж ня толькі за ідэю.

За некалькі дзён да тэлефанаваньня невядомыя перадалі відэакасэту, дзе Кукура тлумачыць патрабаваньні тэрарыстаў: нямнога-нямала 3 мільёны баксаў і столькі ж у эўра ў дробных купюрах.

Дык хто ж хаваецца за гучнай назвай «Беларускае Вызвольнае Войска» і на што некаму спатрэбілася выкрадаць Кукуру? Можна было высунуць некалькі больш-менш праўдападобных вэрсіяў:

– нацыяналістычная экстрэмісцкая арганізацыя, якая вядзе нялёгкае змаганьне за незалежнасьць Беларусі ад расейскага імпэрыялізму. Выкраданьне Кукуры – адказ на спробы Расеі інкарпараваць Беларусь;

– крымінальная групоўка, якія лабіруе інтарэсы іншых нафтавых карпарацыяў. Менавіта гэтым можна патлумачыць, што абодва злачынствы пад шыльдай БВВ непасрэдна тычацца нафта-газавай тэматыкі;

– група палітычных прайдзісьветаў-NGOшнікаў, якія праляцелі з грантам. Гэтую вэрсію мы таксама ніколі не ігнаруем. Як кажа прэзыдэнт, ад іх усякага можна чакаць.

Прааналізаваўшы ўсе «за» і «супраць» кожнай вэрсіі мы нечакана прыйшлі да высновы, што БВВ – гэта недабітыя партызаны-незалежнікі, што засталіся з часоў Другой сусьветнай вайны. Ня выключана, што яны да сёньня ўтрымліваюць невялічкую «партызанскую зону» недзе паблізу магістральных газа- або нафтаправодаў. Гэтым можна патлумачыць першы тэракт БВВ – нехта не хацеў плаціць за транзыт газу праз «партызанскую зону» і выбух зрабіў іх больш згаворлівымі. Іншая справа атрымалася з «Лукойлам», які, наслухаўшыся баек пра халяўны транзыт праз Беларусь, адмовіўся башляць партызанам, за што й трапіў на «счетчик». А каб расейскія нафтабароны былі больш пакладзістымі, «вызвольнікі» й выкралі іхнага віцэ-прэзыдэнта (праверка на дарогах і ўзяцьце закладнікаў былі ўлюбёным промыслам беларускіх партызанаў (і паліцаеў) пад час Другой сусьветнай). Сума выкупу за Кукуру – акурат тая сума, якая ўжо націкала.

Абвергнуць або пацьвердзіць нашую канчатковую вэрсію можа толькі сам Кукура, які быў вызвалены з палону самімі выкрадальнікамі. Ці заплаціў «Лукойл» патрэбную суму застаецца невядомым.

## СпАмы

### Чачэнскі сындром

Як вядома, бясконцыя контартэрарыстычныя апэрацыі спараджаюць масу сацыяльных праблемаў, больш вядомых як «афганскі» або «чачэнскі» сындром. Маладыя хлопцы, якія прыязджаюць з гарачых кропак нічога ня ўмеюць, акрамя як ваяваць, і таму ня могуць уладкаваць сваё мірнае жыцьцё. Вось і вымушаныя дзецюкі падавацца ў напаўкрымінальныя структуры, псуючы ўсю статыстыку праваахсўным органам. Дзякуючы сетцы internet ні адзін чалавек ня можа застацца абыякавым да набалелых праблемаў моладзі. Нас таксама закранула гэтая бяда. Днямі на рэдакцыйны mail прыйшоў чарговы спам, альбо рэклямнае паведамленьне, ад Саюзу Вэтэранаў Чачні. Мы вырашылі надрукаваць яго без зьмяненьняў. Прачытаўшы такое, становіцца крыўдна за бедных юнцоў і хочацца хоць неяк дапамагчы бедалагам «афганцам» ды «чачэнцам»:

**СОЮЗ ВЕТЕРАНОВ ЧЕЧНИ**
Свидетельство Министерства Юстиции РФ о регистрации №5248 от 11.04.2002г
Уважаемые Господа!
В целях привлечения средств для реализации программ помощи Союза ветеранов Чечни нашим бойцам, раненым в ходе контртеррористической операции на Северном Кавказе, предлагаем Вам содействие, на взаимовыгодных условиях, в решении следующих конфликтных ситуаций:
1) Внесудебное урегулирование кредитно-долговых отношений;
2) Защиту имущественных прав Должника или Кредитора;
3) Урегулирование конфликтов с силовыми структурами;
4) Исполнение решений Арбитражного суда;
5) Помощь в решении арбитражных споров;
6) Разрешение конфликтных ситуаций;
7) Проведение сложных переговоров;
Если, к счастью, у Вас нет никаких проблем, примите своё участие в судьбе раненых солдат. Мы не останемся в долгу. С нетерпением ждём Вашего ответа!

С уважением,
Председатель Совета «СОЮЗА ВЕТЕРАНОВ ЧЕЧНИ»,
Киселевич Владимир Сергеевич
(тел. 724-95-69)

## M&M's GO HOME!




Не перастаюць нас частаваць гарачымі фактамі салодкая парачка, своеасаблівы M&M's беларускай рэпрэсаванай журналістыкі Маркевіч і Мажэйка. Мы працягваем сачыць за іх прыгодамі на папраўчых работах, хоць гэта ўжо парадкам надакучыла. І, відаць, не адным нам. Напрыклад, жыхары Жлобіна, дзе адбывае пакараньне Павал Мажэйка, пачалі праводзіць збор подпісаў за вызваленьне былых супрацоўнікаў *Пагоні*. Невядома, чым так пасьпеў дастаць абарыгенаў Мажэйка, але толькі ўжыцца на жлобінскай зямлі яму наўрад ці ўдасца. Ходзяць чуткі, што і ў Асіповічах ствараецца ініцыятыўная група па збору подпісаў супраць Міколы Маркевіча. А куды дзецца «рабочаму» Віктару Івашкевічу? Таго наогул яшчэ не разьмеркавалі. Што й казаць, нялёгкі лёс у апазыцыйнага журналіста ●

**Чупа Чупс**,
біяхімік

## Багатыя таксама плачуць

Цікавая навіна дайшла да нас з далёкай Швайцарыі. У мінулую нядзелю ў краіне сыру ды гарналыжных курортаў прайшоў рэфэрэндум. Але тамтэйшых альпійскіх таўстасумаў, у адрозьненьне ад палітычна адукаваных беларусаў, цікавілі не пытаньні дзяржаўнага ладу альбо саюзу з братэрскай Германіяй. Усё куды больш банальна. Справа ў тым, што ў дзяржсховішчы сабралося нашмат болей золата, чым патрэбна для нармальнага функцыянаваньня эканомікі. Лішак склаў ні многа ні мала 1300 тон (10 мільярдаў даляраў). Адных працэнтаў набягае пад мільярд у год. Вось швайцарцы і павінныя былі выбраць з двух прапанаваных варыянтаў: інвэставаць гэтыя сродкі ў пэнсійныя фонды ці падзяліць паміж бюджэтамі кантонаў і фондам салідарнасьці. Ні водны варыянт не набраў патрэбнай колькасьці галасоў.
Не пазайздросьціш бедным швайцар-цам, якія замест таго каб падзяліць грошы ды бухаць сабе спакойна да канца жыцьця, парацца як бурыданавы аслы. На крайны выпадак аддалі б іх нам. Мы дык дакладна знойдзем ім прымяненьне ●



*Колькі ж залатых яўрэйскіх зубоў спатрэбілася, каб назапасіць такі капітал?!*

**СМІ**

## Адкажы за базар

*«Если такой Президентский фонд есть, я не Президент. Но если его нет, то* Народной воли *в Беларуси тоже не будет. Вы согласны?»*

Як чарговы раз аказалася, прэзыдэнт пагрозаў на вецер не кідае. На тыдні судовыя выканаўцы апісалі частку маёмасьці газэты *Народная воля.*

**Беларусь!**
**Шматпакутная твая доля.**
**Ноччу на тыдні злыдні**
**Апячаталі *Народную волю.***
**Што рабіць – піва піць**
**Газецёнка-та плохенька.**
**Па неправерaным фактам на прэзыдэнта гнаць**
**Зьнішчаць і давіць такіх работнікаў.**
**Журналіст зараз хто – абібок і п'яніца.**
**Дзёрзка нахабна пішуць лухту,**
**Сырам у масле катаюцца.**
**Ліпнуць, як мухі к Рыгорычу.**
**Самі на Капры, на Мальце**
**Кураць Bond**
**Тожа выдумалі – «Прэзыдэнцкі фонд».**
**Я кажу так!**
**Бруднай лапай**
**Прэзыдэнту ў душу ня лезь.**
**Ледзь-ледзь ня зжэрлі**
**Расейскай зявай МАЗ, МТЗ,**
**Нафтан увесь.**
**Дык вось, лічу так:**
**З нашым найлепшым крутым прэзыдэнтам**
**З году ў год НАРОД будзе стрыч свае дывідэнты.**

**Ярыла Пшанічны**

# Лямпачка Рыгорыча




***Неўзабаве беларускія рабочыя будаўнічых спэцыяльнасьцяў будуць калыміць не ў Маскве альбо Чэхіі, а ўзнаўляць прамысловасьць Іраку пасьля амэрыканскага дэсанту.***

Пакуль амэрыканскія ястрабы рыхтуюцца нанесьці Садаму Хусэйну чарговы ўдар пад кадык, беларускі ўрад зьбіраецца сарваць чарговы прыбытковы кантракт з Іракам. Не, на гэты раз мы ня будзем мусоліць банальную тэму гандлю зброяй, што не сыходзіць са старонак незалежнай прэсы і ўжо парадкам надакучыла беларускаму абывацелю. Хай «калашы» Іраку штурхае які-небудзь Кучма. А беларускія аракулы ад эканомікі, у адрозьненьні ад дзядзькі ў Кіеве, глядзяць далёка ў будучыню з думкай пра стваральную, а не разбуральную працу. «Вайна вайной, але кожнай заварушцы прыходзіць капец», – палічылі на К.Маркса-38.

Што застаецца пасьля вайны, уявіць няцяжка: руіны, разбураная гаспадарка, голад і разруха. Аднак падумаць пра сваю братэрскую дапамогу па аднаўленьні краіны, як паказвае досьвед Югаславіі, трэба ўжо зараз. Цікава прыгадаць, як напярэдадні натаўскіх бамбёжак шэраг нямецкіх фірмаў заключыў выгодныя кантракты па рамонту й рэканструкцыі мастоў і іншых транспартных камунікацыяў Югаславіі. Прычым на момант заключэньня дамоваў яны яшчэ стаялі цалёханькія і ў ніякіх рамонтах і тым больш рэканструкцыях патрэбу ня мелі. Проста праворныя фрыцы прыкінулі, што NATO найперш будзе мачыць менавіта шляхі зносінаў.

Падобным шляхам ідзе й Беларусь. Калі амэрыканцы зноў нанясуць ракетна-бомбавы ўдар па Іраку, які й так ляжыць амаль у руінах пасьля славутай «Буры ў пустыні», то працы беларускім шабашнікам будзе хоць адбаўляй. Можна будзе добра калыміць на будоўлях брацкага Іраку. На сёньняшні момант вядома, што Беларусь прапанавала Іраку супрацоўніцтва па аднаўленьні зруйнаванай яшчэ ў 1991 годзе ірацкай энэргетычнай сыстэмы і ўжо прабіла зьдзелку на 5 мільёнаў даляраў па пастаўцы Садаму правадоў, разетак, лямпачак і іншага барахла беларускай вытворчасьці. Калі так пойдзе далей, то пакрысе мы можам уцюхаць Іраку ўсю заляжалую ў нас прадукцыю, зарабіўшы пры гэтым столькі бабак, што Кучма аж падавіцца сваімі супрацьпаветранымі ўстаноўкамі. Адзіная надзея цяпер на Пэнтагон: чым больш амэрыканцы расхірачаць заводаў і электрастанцыяў, тым вышэй узровень патэнцыйнага кушу, які сарвуць беларусы. Так што, не шкадуйце «стынгераў» і «патрыётаў», містэр Буш ●

**Анатоль Чубайс,**
электрык

## Бычыны торч




Кіраўнікі Гарадзеншчыны б'юць трывогу. Дрэнна йдуць справы ў жывёлагадоўчым комплексе вобласьці. Катастрафічна зьніжаюцца надоі ад умоўнай адзінкі буйной рагатай жывёлы. Каб выправіць склаўшуюся сытуацыю, абласное пляменнае прадпрыемства прыступіла да рэалізацыі стратэгічнай праграмы «Малако». З мэтай павелічэньня надояў было набыта 10 тыс. дазьнякоў спэрмы быкоў-вытворцаў канадзкай пароды. Ужо зараз нашых цёлак прымусова асеменяюць заморскім семям. Нажаль, надояў прыйдзецца чакаць не адзін год і невядома яшчэ, ці прыйдуцца да густу шэраговаму спажыўцу канадзкія малокі.

А хто падумаў пра нашых родных бычкоў, якія так і пойдуць на мяса, ні разу не паспытаўшы буронкінай ласкі. Надзейней было б закупіць спэрму канадзкіх фэрмэраў ды вырошчваць у прабірках талковых кіраўнікоў. Глядзіш, і вынікі паявяцца ●

**Мілка**

## Хто спойвае Расею?

У чарговы раз для папаўненьня бюджэту ўрад Беларусі вырашыў кідануць расейскую піўную прамысловасьць ды ўвесьці акцызы на імпартнае піва. Але івана Таранава на мякіне не правядзеш. Саюз расейскіх піваварaў паставіў ультыматум: пры ўвядзеньні акцызаў яны перастануць пастаўляць сваю бадзягу. А гэта, па іх словах, складае амаль палову ўсяго піва, што ўжываюць беларусы. Прычым расейскія піўныя пузы перакананыя, што Беларусь ня ў стане забясьпечыць сябе сваім півам, таму і пантуюцца. Між тым гэта не апошняя мера беларускіх уладаў у барацьбе з фанабэрыстымі расейскімі піваварамі: вытворцы беларускай гарэлкі хутка будуць пазбаўленыя ад акцызнага падатку на экспарт сваёй прадукцыі. Калі гэта сапраўды адбудзецца, то беларуская сівуха ў Расеі будзе каштаваць нават таньней за «Балтыку» №3. Так што залупастым Таранавым, Ачакавым і Бачкаровым хутка будзе поўны крыжачок ●

**Барон Таўбэ**




## Мы будзем жыць цяпер па-новаму

Здаецца, прыходзіць кірдык апошняму аплоту камунізму на зямлі. Колькі ні тужыўся вялікі правадыр усіх карэйцаў, а прыйшлося й яму павярнуцца да цывілізаванага сьвету тварам. У рамках экспэрымэнту Кім Чэн Ір вырашыў пабудаваць капіталізм у асобна ўзятай правінцыі. Дзеля гэтага ён назначыў галавой новага адміністратыўнага ўтварэньня кітайскага бізнэсмэна Яна Біня. На прэс-канфэрэнцыі Бінь заявіў, што зьбіраецца пабудаваць рынкавы капіталістычны анклаў па прыкладу Ганконгу са сваім заканадаўчым органам. А каб зморaным голадам карэйцам не было зайздросна, раён будзе аддзелены ад астатняй часткі краіны каменным мурам. У дадатак, адтуль будзе выселена 500 тысячаў чалавек. Цікава, што ж падштурхнула паўночнакарэйскага рыгорыча на такі не папулярны крок. Пад шумок іракскага крызысу Кім Чэн ір, відаць, вырашыў саскачыць зь ліку краінаў-ізгояў. Непакоіць адное- як бы не прыйшлося за ўсе грахі г.зв. «восі зла» адказваць нашаму чучхэ, а значыць і нам з вамі. Сонца Кім удала саскачыў з прапістону, а вось мы, хутчэй за ўсё, і будзем лавіць амэрыканскія тамагаўкі ды зьбіваць стэлзы ●

**Хун Вэйбін**

## Беларускі ўрад – таксама грантасос!

Колькі вёдраў памыяў было выліта на галовы беднай беларускай апазыцыі, ужо й палічыць цяжка: і тое, што лукашэнкаўскія апанэнты бяруць гранты ў заходніх фондаў, і што бязбожна тыраць выдзеленыя грошы, і што гатовыя кінуць кожнага за 25 цэнтаў і г.д. І паганяла ўжо да іх прысохла нібы таўро – «грантасосы». Аднак сапраўды разумна сказана: «Бачыць у воку іншага сучок, а ў сваім маргале й бервяна не заўважае». І гэтыя словы можна сьмела адрасаваць беларускаму ўраду, які таксама ўва ўсю прысмактаўся да грантавай кармушкі. і не па дробязі, бо ў «сіськах» у яго ходзіць не які-небудзь фонд Сораса, а сам Сусьветны Банк – глябалізатараў начальнік і ўсіх фондаў камандзір.

«Па якіх жа праграмах прамышляюць абітальнікі Дому Ўраду?» – спытае заінтрыгаваны НГО-шны грантасос са стажам. Так, вядома не напісаньнем праектаў па абароне дэмакратыі або правоў чалавека ў Рэспубліцы Беларусь. Канкурэнцыі можна не баяцца. У іх глеба куды больш урадлівая: беларускія чыноўнікі страчаць заяўкі на гранты па барацьбе са СНІДам, тубэркулёзам і малярыяй. Улічваючы тэмпы роста захворваньня названымі хваробамі ў Беларусі за апошнія гады, гэта сапраўды праблема (асабліва з тубікам), якая мяжуе з нацыянальнай катастрофай, таму капусты можна рубіць колькі заўгодна ды ня парыцца, што які-небудзь Вячорка або Бандарэнка пераб'е ўсю мазу.

Галоўнае, што выклікае глыбокую занепакоенасьць у шараговага грамадзяніна: што барацьба са СНІДам і тубікам у нас вядзецца гэтак жа пасьпяхова, як і барацьба з дыктатурай. Бо як заявіў кіраўнік беларускага прадстаўніцтва Сусьветнага банку С.Кулік у размове з «Белорусским рынком», Беларусь спазьняецца з заяўкай на атрыманьне гранту па барацьбе з малярыяй, тубэркулёзам і СНІДам (тэрмін падачы заяўкі 27 верасьня). Відаць, у справаздачы па папярэднім гранце шмат сьпісалі на скрэпкі і дзіраколы ●

**Зьміцер Бандарэнка,**
хартыст




Прайшлі тыя часы, калі былы старшыня Вярхоўнага Савету мог дазволіць сабе пабакланіць па мабіле.

АДРАСНАЯ ДАПАМОГА

# MEMENTO MORAVA

**«По существу, министерство обеспечивает решение вопросов жизни и деятельности каждого человека, начиная от его рождения, трудового, активного периода жизни и кончая смертью».**
**(з інтэрвію Антаніны Моравай *Советской Белоруссии*)**

Паняцьце «сьмерць» неразрыўна зьвязана з паняцьцем «жыцьцё» і зьяўляецца яго лягічным завяршэньнем. Навука, якая вывучае працэс паміраньня, сьмерць, яе прычыны і постмаргальныя зьявы, завецца танаталёгіяй. Па ўсім відаць, у хуткім часе Беларусь зможа папоўніць скарбонку танаталягічнай думкі і побач з імёнамі такіх сьвяцілаў навукі як Кюблер-Рос узыйдзе зорка міністра працы і сацыяльнай абароны РБ Антаніны Моравай. Яе закон «Аб сацыяльнай дапамозе», праект якога павінен зьявіцца да канца гэтай восені, мае ўсе падставы стаць настольнай брашурай усіх тых, каго цікавіць пытаньне ўзаемасувязі сьмерці і сацыяльнай палітыкі.

Хаця праект закону пакуль не зьявіўся ў друку, ня трэба быць Настрадамусам, каб вылучыць яго танаталягічную накіраванасьць. Гэтак званая «адзіная праграма адраснай сацыяльнай дапамогі» ўжо была часткова апрабаваная ў некаторых раёнах Беларусі, у прыватнасьці, у Асіповічах. На гэты конт маюцца мэдыйныя адкравеньні самой Моравай, а таксама ўнутраныя і публічныя дакумэнты Сусьветнага Банку, якія фактычна натхніў беларускі ўрад на рэформу сацыяльнай сфэры.

Як вядома, сярод беларусаў усё большы працэнт бедных, і экс-ліцьвіны ўсё раней адпраўляюцца ўгнойваць сваімі кадаўрамі айчынныя суглінкі. Чаму так здараецца? Паводле аксыёмы Моравай, гемарой беларусаў у тым, што яны страчваюць экзыстэнцыяльны нюх. Усыплёныя шматлікімі ільготамі, субсыдыямі і бюджэтнай халявай, якія ахопліваюць амаль усё насельніцтва краіны, беларусы больш ня чуюць сырога подыху цёткі з касой. Між тым, толькі прадчуваньне немінучага скону, трупнага аўтолізу і пазытыўнай рэакцыі на прыкмету Белаглазава дапамагае людзям не губляць смак да жыцьця і ёрзаць тазам, каб як мага пазьней апынуцца ў катэгорыі кліентаў дыстрыб'ютарскай сеткі «Рытуал». Адсюль і рост прадукцыйнасьці працы і здаровая канкурэнцыя на рынку. Такім чынам, страх перад сьмерцю ёсьць рухавік квітнеючай рынкавай эканомікі. Празьмерныя сацыяльныя гарантыі ня толькі разьдзімаюць дэфіцыт бюджэту, але і тармазяць творчы дух народу, стымулюючы «ўтрымальніцкі інстынкт» (тэрміналёгія Моравай) і лянοту.

Як сказала сама спадарыня міністар, адна з мэтаў рэформы – пазбавіць грамадзянаў гэтага ганебнага рэфлексу. Каб разварушыць крэатыўны патэнцыял бедных, у новым законе будуць прадугледжаныя арыгінальныя ўмовы атрыманьня сацыяльнай дапамогі пры адначасовым скасаваньні амаль усіх існуючых сёньня ільготаў і датацыяў. Вось некаторыя з іннавацыяў:

1. Аказаная дапамога не вызваляе ад страху перад сьмерцю. Памер сацыяльнай успамогі будзе ўстаноўлены значна меншы за памер, неабходны для дасягненьня мінімальнага спажывецкага кошыку, гэта значыць той суммы, за якую можна па-чалавечы праіснаваць.
2. Працэдура атрыманьня ўспамогі будзе спраектаваная па мадэлі армейскай паласы перашкодаў альбо камп'ютэрнай гульні «квэст», з мэтай дрэсіроўкі ўтрыманца да працы. Перад тым як атрымаць дзяржаўнае бабло, трэба будзе добра папацець, каб рознымі даведкамі, выпіскамі й дэклярацыямі даказаць, што твой сукупны даход не перавышае 60% ад мінімальнага спажывецкага кошыку. Гэта гэтак званы «заяўляльны» прынцып адраснай дапамогі.
3. Пры вызначэньні магчымасьці аказаньня «адзінай адраснай дапамогі» будуць улічвацца ня толькі грашовыя даходы сям'і-заявіцеля, але і патэнцыяльныя выгоды, якія тая можа атрымаць, напрыклад, ад здачы аднаго з пакояў студэнтцы першага курсу, ад разьмену вялікай кватэры ў цэнтры на меншую ў спяних, ад перадачы адзеньня ад старэйшых дзяцей малодшым, ад вырошчваньня памідораў на балконе, ад збору ягад і грыбоў у лесе, ад продажу скуранай курткі, залатых завушніцаў ды іншых прадметаў люксу і г.д. Па лёгіцы, у будучыні, каб ускладніць заданьне, у патэнцыйныя даходы верагодна ўвойдуць паступленьні ад збору бутэлек, кардонных каробак і перапрацоўкі на харчаваньне шчодрага зьместу мусараправодаў. Гэтак падлічваецца «каэфіцыент нуждаемасьці».

Як бачым, трапіць у катэгорыю «бедных» і дасягнуць выратавальнай кармушкі ў гэткіх умовах змогуць толькі тыя, хто здолее праявіць цуды вяртлявасьці, вынослівасьці і жывучасьці. Тым, хто ня вытрывае марафону, няхай зямля будзе пухам.

У завяршэньне некалькі словаў аб ідэалягічных вытоках новай сацыяльна-танаталягічнай дактрыны Моравай і Сусьветнага Банку. Як піша Навум Хомскі ў кнізе «Прыбытак на людзях. Нэалібэралізм і сусьветны лад», тэорыя барацьбы з сацыяльным утрыманствам узыходзіць сваімі каранямі яшчэ ў пачатак XiX стагодзьдзя, калі праайцы нэалібэральнай дактрыны Давід Рыкарда, Томас Мальтус і іншыя лібэральныя мысьляры заявілі, што новая навука «з непарушнасьцю закона Ньютана» даказала, што мы толькі шкодзім бедным, калі намагаемся дапамагчы ім, і што найлепшы падарунак, які мы можам прапанаваць пакутуючым масам, хаваецца ў пазбаўленьні іх ад ілюзіяў, быццам яны маюць права на жыцьцё. У 30-я гады XIX стагодзьдзя здавалася, што ў Англіі гэтыя дактрыны атрымалі перамогу. «Гэты ўтапічны экспэрымэнт быў самым бязьлітасным актам сацыяльнай рэформы за ўсю гісторыю», – пісаў Карл Паланы, – «акт, які зьнішчыў мноства жыцьцяў». Але ўзьнікла непрадбачаная праблема. Глупыя масы пачалі прыходзіць да высновы: «калі ў нас няма права на жыцьцё, то ў вас няма права на кіраваньне». Брытанскай арміі прыйшлося змагацца з бунтам і беспарадкамі, а хутка ўзьнікла яшчэ больш сур'ёзная пагроза – пачалі аргані-зоўвацца рабочыя...» (*Н.Хомский, Прибыль на людях. Неолиберализм и мировой порядок, 2002, ст. 89-90*). Memento mori, спадары міністры ●

# Восень у Мумі-доле

## Казка пра тое, як упаданьне ў зімовую сьпячку дазволіць беларусам перажыць рэформу сацыяльнага забесьпячэньня

**У тую самую раніцу, калі тата Мумі-троль запаліў сваю люльку, седзячы на вэрандзе, Мумі-мама гатавала аладкі з сунічным сочывам, а Мумі-троль марыў сустрэць Снусмумрыка, на парозе дома зьявіліся два падарожнікі – Тофсла і Віфсла. Тофсла быў у чырвонай шапачцы, а Віфсла, як заўсёды, нес вялікі чамадан. Яны прыйшлі здалёк і вельмі стаміліся. З коміну мумі-хаты, які стаяў паміж срэбных таполяў і сьлівавых дрэваў, курыўся ранішні дымок.**

**– Дымсла, – сказаў Віфсла.**

**– Штосьці гатуюць, – кіўнуў Тофсла.**

**І яны пачалі спускацца ў даліну ў надзеі пачаставацца і адпачыць перад больш далёкім падарожжам за мяжу.**

**– Охохонюшкі! – усклікнула Мумі-мама. – Відаць, у нас прыбавіцца дамачадцаў, трэба сказаць Мумі-тату, каб зрабіў два зусім маленькія ложкі. Як жа мы ўсе пракормімся? Пэнсію Мумі-таты мы ўжо зьелі, а дзіцячыя аладкі неўзабаве скончацца. Ну, неяк будзем жыць.**

**Трэба адзначыць, што Мумі-хата ўся была поўная тролямі, сьніфамі, Андатрам і Хемулем. У хаце заўсёды было шмат народу і кожны займаўся чым хацеў, нікольki не баючыся за заўтрашні дзень. Мумі-тата і Мумі-маці прымалі ўсіх незнаёмцаў са спакоем і толькі ставілі новыя ложкі ды пашыралі абедзены стол.**

**– А высла паспрабуйцесла атрымаць сацыяльную дапамогусла, – ціха сказаў Тофсла.**

**– Мы сустракалісла цётку Хемуліху, янасла выдаесла ўсім мнагачленным сем'ям салодкія аладкісла, – дадаў Віфсла.**

**– Ой, не люблю я сваю цётку, уж вельмі яна занудная і любіць калекцыянаваць паперкі. Без паперак яна вас да сябе не падпусьціць, – прамямліў Хемуль.**

**– Ну ўсё, скончаем есьці! Зараз жа зьбіраемся ў падарожжа. Паедзем да цёткі Хемуля па аладкі, я чую, што гэта будзе цікавая прыгода! – сказала Мумі-мама.**

**– Ура! – заарал Мумі-троль. – Можа і Снусмумрыка сустрэнем!**

**Толькі Тофсла і Віфсла зірнулі адзін на аднога, забегалі туды-сюды і напрыканцы пабеглі ва ўнутар Мумі-хаты з усімі сваімі рэчамі: «Мы лепш застанемся з Андатрамсла, Мора ідзесла!» І яны разам з рэчамі схаваліся ў гамак Андатра.**

**– Мора? А хто гэта? – запытаў стары Хемуль і яму стала неяк не па сабе.**

**Тофсла распрануўся, вылупіў вочкі, ашчэрыў зубы ва ўсьмешцы, як толькі мог.**

**– Жудасная і нахабнаясла! – сказаў Віфсла.**

**– Зачыняйцесла і хавайцесла ўсе каштоўныя рэчысла ад Моры!**

**– Мы ўзброімся і будзем у стане баявой гатоўнасьці, – сказаў Мумі-тата, – і не дамо нікога пакрыўдзіць.**

**Усё гэта было жудасна цікава. Мумі-мама кінулася зьбіраць рэчы ў дарогу. Яна страшна непакоілася, узгадвала, ці не забылася на што: цёплыя коўдры, чугункі, кафейнік, масу ежы, запалкі, цёплае адзеньне, абрус і сваю сумку. Мумі-тата ўзяў сваю люльку і мэмуары. І яны рушылі ў дарогу. Калі яны дайшлі да цёткі Хемуля, на двары было ўжо па-верасьнёўску цёмна. Мумі-мама склала вогнішча з камянёў, каб падагрэць апошнія аладкі, расклала на зямлі абрус, расставіла кубачкі і ўпрыгожыла стол букетам восеньскага лісьця.**

**– Мы чымсьці можам дапамагчы? – запытаў**

# АДРАСНАЯ ДАПАМОГА




Мумі-троль, калі ўсё было падрыхтаванае да ежы.

– Вы павінны пайсьці да цёткі Хемуліхі, папрасіць сьвежых аладкаў, – сказала Мумі-мама.

А яна-та ведала, чаго ім больш за ўсё хочацца. Вельмі важна ведаць, ці будзеш есьці штосьці на заўтрашні сьняданак. І ўся Мумі-фэмэлі, акрамя Мумі-мамы, адправілася да нары Хемуліхі. Хемуліха была вельмі ўражаная пабачыць свайго пляменьніка, які ўсё носіць ейную сукенку, зь сябрамі, але, як усе Хемулі, яна магла толькі сердаваць і бубніць штосьці пад нос.

– Што, галеча прымусіла па аладкі прыйсьці? – абыякава запытала Хемуліха. – Дык мне ад вас патрэбныя паперы пра вашае працоўнае жыцьцё і даходы. І чым больш, тым лепш.

– А я акурат узяў з сабой свае мэмуары, – адказаў Мумі-тата. – Хоць на штосьці яны спатрэбіліся.

І аддаў свой рукапіс Хемулісе. Тая з павагай узяла яго ў рукі і, адкрыўшы мэмуары на першай старонцы, пачала павольна штосьці бубніць пад нос, пэрыядычна падымаючы вочы то на аднаго, то на другога героя апавяданьня. Праз некалькі гадзінаў Хемуліха стомлена зачыніла апошнюю старонку і кінула погляд.

– Да, цяжка мне прыйдзецца з вамі, – прамовіла ціха Хемуліха. Трэба сказаць, што гэта была асабліва шкадлівая і пунктуальная асоба. – У вашай эканамічнай адзінцы чатыры асобы дарослых: Мумі-маці, Мумі-бацька, Хемуль і стары Андатар, і пяць дзяцей: Мумі-троль, Снорк, фрэкен Снорк, Сьніф і крошка Мю. Таму вам, як мнагадзетнаму сямейству, на месяц паложана на ўсіх 1950 аладак і 25 слоікаў малінавага, чарнічнага і брусьнічнага сочыва. Толькі як жа вы гэтае забярэце з сабой? Вы ведаеце, што Мора аб'явілася у нашых краях?

– Мы гатовыя пастаяцць за аладкі! – усклікнуў Мумі-троль.

Раптам па зямлі пацягнула холадам, месяц схаваўся за аблокамі, лісцье сьцялася ад страху.

– Што гэта? – прашаптала фрэкен Снорк і бліжэй прыціснулася да Мумі-троля.

– Мора, – выдала Хемуліха.

На зьмёрзлай зямлі перад імі сядзела Мора і тарашчылася на іх у абодва вока без усялякага выразу. Здавалася, што яна можа прасядзець гэтак цэлую вечнасьць. У гэтым і быў увесь жах.

– Што табе трэба ад нас? – сьмела запытаў Мумі-тата.

– Мае аладкі назад, – адказала ледзяным голасам Мора.

– Чаму мы павінны аддаць іх? – спыталася Мумі-мама.

– Таму што гэта маё. Вы павінны вучыцца жыць без аладкаў, – насьмешліва сказала Мора.

– Чаму? – заплакала крошка Мю.

– Вы павінны працаваць круглыя суткі і круглы год, і вам ня будзе хапаць часу на пажыраньне аладкаў.

Забраўшы з сабой усе аладкі, Мора больш не сказала ані слова, і шэрым ценем усьлізнула прэч.

Першы сьнег упаў на Мумі-дол пахмурнай раніцай. Галодны Мумі-троль стаяў на ганку і назіраў як зіма ахінае зямлю і думаў, як увечары яны ўпадуць у сьпячку. Мумі-тролі вырашылі зрабіць гэта з надыходам халадоў (па праўдзе кажучы, гэта разумна, калі хто ня можа плаціць за ацяпленьне, ня любіць халодных батарэяў, цемры лямпачак і адсутнасьці цёплага абутку). Апошні сьняданак было шчыльным: у кожнага ў філіжанцы былі толькі хвойныя іголкі, бо неабходна напасьледак набіць чымсьці страўнік. Бо ж прыйдзецца праспаць доўгую Мумі-дольскую зіму.

А дзесьці далёка-далёка Снусмумрык граў на губной гармошцы сваю самую жалобную песеньку: «Гэй, зьвяраты, завяжыце банцікам пузікі...»

**Туві Ясны**,
САЦЫЯЛЬНЯ КАЗАЧНІК

# БТ ЗОНА XXX

## У новым фармаце БТ прадугледжаныя эратычныя праграмы

Пахаладненьне адносінаў з Расеяй натуральным чынам прывяло да росту празаходніх настрояў у грамадзтве і ва ўладзе. Не стала выключэньнем і Беларускае тэлебачаньне, якое 21 верасьня абвесьціла аб адкрыцьці новага тэлесэзону пад нацыяналістычным лёзунгам «Тэлебачаньне тваёй краіны!» Новы фармат Першага Нацыянальнага тэлеканалу мяркуе грунтоўныя зьмены ў эфірнай палітыцы, прыкладам для якіх стануць далёка ня лепшыя ўзоры заходніх перадач. Робіцца гэта з мэтай складаньня канкурэнцыі расейскім шавіністычным тэлеканалам, час вяшчаньня якіх паціху будзе зьмяншацца да поўнага зьнікненьня зь беларускага эфіру.

Прыкладам, бэтэшнікі садралі з французскага «Форту Баяр» свой новы шэдэўр «Турнір», у адной зь першых перадач якога нейкі здаровы быкан з рыцарскім мячом зьмясіў у труху спачатку некага хлопца, а пасьля і кволую дзяўчынку. Перадача безгустоўна косіць пад рыцарскія традыцыі, аднак пазбаўленая галоўнага прынцыпу сярэднявечча – павагі да Дамы.

Як вядома, колькі тыдняў таму быў перакрыты начны эфір расейскіх тэлеканалаў і ўведзены начны эфір на БТ, які ў першую чаргу будзе запаўняцца эратычнымі праграмамі, назвы каторых ня могуць не ўзбуджаць – «Мужчынская бессань» і «Дзёньнік жанчыны». І хоць кіраўніцтва тэлеканалу абяцае, што эротыка будзе «лёгкай і прыгожай», няма сумненьняў, што гэта толькі пачатак, і з цягам часу БТ скоціцца да паказу банальнай парнухі, як было на ўсіх заходніх тэлеканалах. Самае цікавае, што БТ будзе паказваць эротыку, зьнятую ўласнымі сіламі. Страшна ўявіць, у што ператворацца такія перадачы, як «Зона Х», «Калыханка», «Вясёлая сямейка», «5х5», «Усё нармальна, мама» і «72 гадзіны». Затое рэйтынг БТ ужо дакладна будзе вышэйшым за ўсе расейскія тэлеканалы разам узятыя ●

**Канстанцін Ёбрзд**




## Гомельскі вояж Мадоны

Чарнобыльская зона становіцца ўсё больш прывабным і пэрспэктыўным месцам для адпачынку і жыхарства з добрым надворіем, інфраструктурай і стабільнай экалягічнай абстаноўкай. Так сталася дзякуючы імкненьням як беларускіх уладаў, што прысылаюць туды па разьмеркаваньні ўсё новых настаўнікаў і мэдыкаў, гэтак і прыватных асобаў, якія робяць жыцьцё простых гамяльчан больш цікавым і насычаным падзеямі сусьветнага маштабу.

**Зоркі сусьветнага шоў-бізнэсу зьбіраюцца даць супэрканцэрт у Гомелі. Сьпяшайцеся абзавесьціся даведкамі пацярпелых ад чарнобыльскай аварыі!**




Гэтак, адзін зь кіраўнікоў арганізацыі культурнага дасуга жыхароў горада Бэрліна Скумек Заботка заботліва прэзэнтаваў уладам Гомеля ідэю правядзеньня на пляцоўцы гомельскага аэрапорту канцэрту зорак сусьветнай эстрады, сярод якіх плянуецца запрасіць Мадону, Стынга, U2 і Робі Уільямса. Перамовы з поп-ідаламі ідуць небеспасьпяхова, зь некаторымі ўжо нават дасягнутая папярэдняя дамоўленасьць на выступ 31 траўня 2003 году.

Мэта канцэрту – паказаць беларусам і сусьветнай грамадзкасьці, што Гомельская вобласьць ня толькі прыгодная, але і найлепшая для пражываньня, калі на яе землях будуць выступаць артысты, жыцьці і здароўе якіх клапоціць мільёны людзей ва ўсім сьвеце. Няма ўпэўненасьці, што на гомельскі аэрапот, здольны зьмясьціць усяго 50 тысяч чалавек, улезуць усе жадаючыя, тым больш, што на канцэрт, вядома, зьбяруцца слухачы з усяе Усходняе Эўропы, і на здароўе слухачоў больш будзе ўплываць ня нейкая міфічная радыяцыя, а шум ад дынамікаў і магчымая цісканіна, якая на канцэртах такога ўзроўню часта прыводзіць да сьмяротных выпадкаў. Таму вельмі цікава, як з гэтай сытуацыі выйдуць гомельскія ўлады. Ці тое яны пашыраць плошчу аэрапорту, адкрыўшы некалькі дадатковых узьлётных палосаў, што зробіць Гомель больш пэрспэктыўным авіяпартом, ці будзе адкрыта некалькі трыбунаў з дарагімі VIP-месцамі.

Сродкі ад канцэрту пойдуць на далейшае разьвіцьцё медычнай і забаўляльнай інфраструктуры Гомелю, што зь цягам часу безумоўна ператворыць яго ў буйны культурна-аздараўленчы цэнтар-здраўніцу эўрапейскага маштабу, кшталту Ніцы ці Жэневы. Нажаль дамова з поп-зоркамі тармозіцца самім арганізатарам, бо спадар Скумек Заботка скумекаў, што на гэтым канцэрце можна наварыць някіслыя бабкі і просіць у музыкаў выключныя аўтарскія правы на запіс і распаўсюд кампактаў з канцэртам. Аднак тысячы людзей вераць, што вечны нямецкі комплекс віны перад беларусамі пераможа меркантыльныя патугі спадара мецэната, і мы пабачым зорак сусьветнага шоў-бізнэсу на чарнобыльскай зямлі ●

**Гена Грушавы**

## Рэцэпты варшчыка Гучка




Кніга Яўгена Гучка «Формула травы» можа зацікавіць любога наркамана. Але назва – проста хітры рэклямны трук. Для прывабнасьці можна было таксама назваць яе «Усё пра сэкс», альбо «Толькі не гавары маёй маме» і г.д. Лепш зазірнуць пад вокладку, аўтара прадставіць сябе сам:

«Я з тых, з кім заўсёды Сябе самога Дэфіцыт»

Вось, на 328 старонках больш за 2200 мініятур-афарызмаў на самыя размаітыя тэмы жыцьця. Гэткая энцыклапэдыя неабходных ведаў кшталту «Волга ўпадае ў Касьпійскае мора»...

«Ведаю многа, Многа умею, Ды мала, як трэба жыву» — хваліцца Гучок. Творчая праграма-максымум Гучка ставіць у тупік нават самых вопытных дасьледчыкаў шызалітаратуры:

*Як знойдзеш звышмэтафару –*
*У звышрэальнасьць*
*Зазірнеш*

Нешта ж тут нецьвярозае, відаць, без травы не абышлося:

*Здаецца часам мне,*
*Што ў нас вучыліся*
*Сам Байран, Блок і Багдановіч*

Ого! З Байранам вучыўся! А ў нашым клясе быў адзін, дык у яго мянушка была паручнік Ржэўскі. Але, калі здаецца, трэба, як кажуць, перажагнацца:

*Нібы для мухі мёд*
*Салодкі д'ябал*
*Для чалавека.*

Так, такі перажагнаецца... Яўген Гучок нарадзіўся ў Слуцку, а сам жыве ў Менску, дзе выпусьціў ужо чацьвёртую кнігу гэткіх вершаў. Нагадаем, што Случчына дала сьвету яшчэ двух буйных паэтаў – Зьміцера Вішнёва і Міхася Башуру. Калі яшчэ ўзгадаць пра Слуцкія паясы, можна сьмела падымаць пытаньне пра Слуцкую Анамалію ў беларускай літаратуры ●

**Майк Багдановіч**

## РаўнапрАўе

### Віват, Стэйсі!



21 верасьня ў рамках фэстывалю ўсіх роўных меншасьцяў РБ «Гей-прайд'2002» адбыліся ўрачыстыя выбары каралевы травэсьці-сцэны «Міс Дзіва». Як паведаміла адна з аргані-затараў фэсту Ліза бін Лупа, папярэдняя каралева, непараўнальная Вава Ахтунг, была пазбаўленая свайго тытулу з-за парушэньняў умоваў кантракту. Высьветлілася, што Вава папраўілася за апошнія тры месяцы на 7 кг і падобна да таго, што яна цяжарная, што цалкам пярэчыць умовам конкурсу. Таксама, арганізатары падазраюць, што Вава патаемна выйшла замуж. Сама Вава Ахтунг адмовіла-ся камэнтаваць падобныя заявы былых калегаў па падмо-стку і заявіла, што яна не жадае быць бязмоўнай лялькай у руках прайдзісьветаў ад гетэрасэксуалізму і мачызму. Тым часам месца Вавы заняла ня менш прывабная і вельмі сэксуальная Стэйсі. Новая Міс Дзіва зьбіраецца цалкам прысьвяціць сябе дабрачынным справам і даказаць, што сапраўдная жанчына мае куды больш цікавыя заняткі, чым ражаць дзяцей ды карміць мужа. Віншуем Стэйсі зь перамогай!

## *Як адыягнуцца...*

### Па-кіндзадзоўску

«Тармазі! Чым тармазіць, калі ты ўсю тармазную вадкасьць выпіў?» – гэтыя неўміручыя словы з блокбастэру «Кін-дза-дза» могуць стаць слоганам буйной вечарыны ў забягалаўцы **«Новы клюб» (NC, 28.09, 22-00)**, цьвіком якой выступае **банда ГРАВИЦАППА**

### Па-сукачоўску

Аматары істэрычна-разухабістага **Гарыка Сукачова і банды НЕПРИКАСАЕМЫЕ** могуць клюбіцца **27.09 у КЗ «Мінск»**. Але паляпаць па плячы свойскага пацана Гарыка фіг атрымаецца – ахова КЗМ забясьпечвае каставую недатыкальнасьць круцей за індыйскіх брамінаў. З асабліва няўрымсьлівых на месцы робяць саці – рытуальнае ахьвярапрынашэньне.

### Па-дзяцінску

**Фэст пад назвай «Студэнцкі рух»** з удзелам невядомых банд **РЭВОЛЬВЭРС, ХАЛІ-ГАЛІ, ФАКУЛЬТЭТ, ПАД'ЁМ**, вядомага **дуэту тэлевядучых «Саша і Сіроржа»**, а таксама адкапанага з нафталіну антыкварнага гурту **ДЫ БРОНКС ЭНД НАТАЛІ** прэтэндуе на «рэальную» моладзевую тусьню. Але клюнуць на гэтую феньку могуць хіба першакурсьнічкі. Усе астатнія выдатна ведаюць, што сапраўдны студэнцкі рух адбываецца у інтэрнатах пад коўдрамі пад грукат RAGE AGAINST THE MACHINE, а не на мажорскай сцэне **Палацу Рэспублікі (27.09, 19:00)**... За ўсю лажу давядзецца яшчэ й плаціць – рыхтуйце 10000.

### Па-выбіраеўску

**Наташа Каралёва** спазьнілася на год, але, відаць, шчыра вырашыла папрацаваць на карысьць беларускай дэмакратыі. Яе **новая праграма (3.10, Палац Рэспублікі)** завецца ні больш ні менш, як **«Прысьвячаецца Адзінаму»** (!)... І гэта на другім годзе кіраваньня Лукашэнкі, падчас фінансавых расьследваньняў у стане белапазыцыі... На месцы амэрыканскіх рэвізораў я б расцаніў гэта як зьдзек.

### Па-нашанску

Нядаўна адчынены **«Новы клюб» (NC)**, які старанна прыхоўвае сваё месцазнахо-джаньне, актыўна ўжывае нестандартныя мэтады падману кліентаў. Гэтак, кожны наведнік **Free drink party (29.09)** набываючы квіток, атрымае (у лепшых гарбачоўскіх традыцыях) талён на сьпіртное. На чарзе – неўміручы прынцып «Калі рукі з мылам, то кава бяз цукру»?

### Па-інтыму

**Жонка** сэкс-сымбаля беларускіх падлеткаў **Піта Паўлава** прэзэнтуе ўласную выставу **«Прыватнае жыцьцё з пэўнымі выбрыкамі...» (Скарыны, 47, да 15.10)**. Лепей раз паўдзельнічаць, чым сто разоў пабачыць...

### Па-кіношнаму

На гэтым тыдні замест таго, каб швэндацца па кінатэатрах, значна цікавей заняцца **сацыяльнай інжынэрыяй**...

**Санітар**

# Праблема сецявога этыкету

## *Інтэрнэт-форумы стракацяць лаянкай і крэпкімі слоўцамі*

Адвалі, манітор кітайскі!

Ды засунь ты свой файл сабе ў дыскавод!

Абгрэйдзі спачатку свой 486-ы, а потым ужо да мяне ў сетку суй!

Існуе старажытнае залатое правіла этыкі: «ставіцца да іншых так, як хочаш, каб ставіліся да цябе». Але ў інтэрнэце, як і ў жыцьці, – маральная пропаведзь не заўсёды даходзіць туды, куды трэба. Усе віртуальныя форумы, куды ні сунься, строкатам стракацяць featured рознымі жарснымі постынгамі, галоўная тэма якіх – як мага ніжэй апусьціць суразмоўцу-апанэнта. Такая сытуацыя вымушае многіх карыстальнікаў клапаціцца пра дзявочую цнатлівасьць сваіх форумаў, дзе йдзе дыскусія на тэму сецявога этыкету. У ліпені Ватыканская Рада нават выпусьціла адозву да хрысьціянаў аб паводзінах у інтэрнэце, як быццам сапраўднаму верніку недастаткова дзесяці запаведзяў і катэхізысу. Чуюцца заклікі да ўвядзеньня адмінамі жорсткай цэнзуры. Пара расставіць акцэнты ў гэтым істотным пытаньні.

Яскравы прыклад несупадзеньня дэкларацыі і яе рэалізацыі — форумы й чаты на расейскіх рэсурсах, дзе таксама шмат матэрыялаў кшталту «Дзэн і інтэрнэт», інструкцыяў па сецявым этыкеце з заклікамі часьцей ужываць скарот IMHO – (in my humble opinion), а не паліваць усіх як той паручнік Ржэўскі: (усе мудакі, адзін я – д'Артаньян). На самай справе усе расейскія канфэрэнцыі на расейскім І-нэце адбываюцца прыблізна па адным сцэнары: спачатку ідзе знаёмства з тэмай, зьяўляецца некалькі вострых палемічных «пастоў» і далей крывавая разборка з высьвятленьнем, хто з удзельнікаў форуму габрэй, мудак, агент КДБ, іншаплянэцянін, хто чыю мазу фак, і г.д.

Якімі б прывабнымі нам ні падаваліся практыкі нашых расцугляных і разьняволеных усходніх суседзяў, хацелася б, каб паводзіны беларускіх юзэраў мелі хаця б крыху эўрапейскай цывілізаванасьці і старакрывіцкага палітэсу. Друкуем у скарочаным выглядзе нашыя «10 парадаў як быць нягоднікам у інтэрнэце». Ён дазволіць вам падкурвіць сваім суразмоўцам, справакаваўшы яго да нецэнзуршчыны, і пры гэтым самому пазьбегнуць гневу сыстэмнага адміністратара.

1. Адпраўляйце на форум некалькі постынгаў з граматычнымі памылкамі і асабістымі нападамі на канкрэтных асобаў, а пасьля нагадвайце гэтым людзям, што няветліва не адказваць на лісты.
2. Скажыце, што ўсе людзі – браты, павінны верыць адзін аднаму, і таму вы прапаноўваеце чытачам форуму абмяняцца паролямі і нумарамі крэдытных картак.
3. Чаму трэба абмяжоўвацца адным клічнікам, ці знакам запытаньня, калі іх можна паставіць прынамсі трыццаць?!?!?!?!?!?!?!?!?!?!?!?!?!?!?!?
4. Не займайцеся такімі дробязямі як пунктуацыя.
5. ...Атаксамапрабелы.
6. ЛЕПШЗАЎСЁКАЛІВЫБУДЗЕЦЕРАБІЦЬУСЁ-ГЭТААДНАЧАСОВА
7. Карыстайцеся подпісам, зробленым па такому прынцыпу : 4 кантактныя адрэсы, 5 radkou lacinicaj, ASCII-малюнак, ключ PGP і, нарэшце, Ваш хатні тэлефон .
8. Знайдзіце ўсе старыя матэрыялы пад тытулам «Прыйшоў паручнік Ржэўскі і ўсё папсаваў. Пара вярнуцца да гэтай тэмы». Зьбярыце старыя паведамленьні ў адзін файл і адпраўце на форум, каб усе ўзгадалі, пра што йдзе гаворка.
9. Закіньце некалькі жывадзёрскіх анэгдотаў на сайт аматараў коцікаў.
10. Адпраўце сачыненьне «Героі джыхаду» на форум воінаў-інтэрнацыяналістаў ●

**Бэйсык Фартран**

## Загінуў Сяргей Бадроў

З болем у сэрцы павінны паведаміць пра заўчасную сьмерць нашага любімага актора і пачынаючага рэжысэра Сяргея Бадрова-малодшага. Ніколі ўжо болей не пабачыць нам выдатных шавіністычных фільмаў зь яго ўдзелам. У яго асобе сусьветны сынэматограф страціў аднаго з самых сваіх лепшых братоў. Такім і застанецца ён у нашай памяці – патрыётам, змагаром за справядлівасьць і проста добрым чалавекам...

## *Бел. Літ.*

### Хто нап'ецца апошнім

Калісьці пісьменьнікам у Саюзе жылося добра. У 1990 годзе, калі гарэлка ў дзяржаўных крамах каштавала ўжо больш за чырык, у буфэце Дома літаратараў яе адпускалі прагкім пісакам за старыя савецкія 3.62. Пісьменьнікі маглі адпачываць у Доме адпачынку ў Іслачы, атрымлівалі пуцёўкі ў санаторыі. Дачы, сэмінары, канфэрэнцыі, фуршэты... За ўсё плаціла дзяржава з кішэняў менш таленавітых суграмадзянаў, няздольных зрыфмаваць шыла і мыла. У гэтым годзе дзяржава, эстэтычны густ у якой вельмі ўжо спэцыфічны (вершы Васіля Быкава яшчэ як бы і нічога сабе, а проза ўжо...) скасавала фінансаваньне Саюзу пад кіраўніцтвам мяцежнай Вольгі Іпатавай. і вось ужо больш за год пісьменьнікі не атрымлівалі зарплату. Чарговы зьезд быў склікаНы менавіта дзеля вырашэньня гэтай істотнай праблемы - як выжыць у сучасных умовах пэнсіянэрам пяра і дапамагчы самавыяўляцца маладым аматарам мастацкага слова. Новы старшыня павінен выканаць спадзяваньні пісьменьнікаў на тое, што ўсе праблемы беларускай літаратуры і культуры не ў тым, што нехта ня ўмее пісаць, а ў тым, што ў пісьменьнікаў дрэннае кіраўніцтва. Калектыўнае (159 з 292) падсьвядомае сябраў Саюза пэрсаніфікавалася ў асобе Алеся Пашкевіча, маладога (32 гады) чалавека ў чырвоным гальштуку, аўтара адзінай пакуль кніжкі пра Слуцкае паўстаньне. Ці вернуцца залатыя часыі Ці зойме літаратура месца сярод любімых прэзідэнтам жанраў мастацтва, як хакей, «Дажынкі» і суботнікіі Пакажа час.

**Ядвігін ППШ**

## *СынэмА*

# Сацыяльная інжынэрыя

Сучасныя капіталістычныя гарады ўяўляюць сабой набор жорстка разьмежаваных сацыяльных гета. Гэта значыць, працоўныя жывуць у адных кварталах, студэнты ў другіх, буржуі ў трэціх. Калі ўлічыць, што, з аднаго боку паводле Леніна, кіно – найважнейшы сацыяльны наркотык, а зь іншага – чалавек звычайна ідзе ў кіно, бліжэйшае да месца жыхарства альбо працы, параўнальны аналіз рэпэртуару Менскіх кінатэатраў пацьвярджае – нас таксама дзеляць на гатункі! Напрыклад «Аўрора» прапануе пантовым пацанам з Масюкоўшчыны, Курасоўшчыны і Сухарава «Ракавую жаньчыну» – модна і пра сэкс. Цікава, што тую ж стужку круцяць і ў «Маскве» (раён іхнага культурнага адпачынку). Менш крутым «юга-западным» калдырам у зачуханым «Бярэсьці» прапануюць «Сьцерву». Серабранка й Зялёны Луг – традыцыйныя раёны абмежаванай дысьлякацыі БДУшных выкладчыкаў. Што «Вільнюс», што «Салют» паказваюць кіно пад іххныя патрэбы – «Цара скарпіёнаў» (мадэрнова, тупа, з прэтэнзыяй на адукаванасьць). А вось рэпэртуар кінатэатру «Піянэр» відавочна складаўся чалавекам з пачуцьцём гумару адмыслова пад выхаванцаў ліцэю БДУ, які месьціцца побач – «Соблазн», «Гары Потэр», «Краіна невывучаных урокаў»...

Раён кінатэатру «Мір» – месца павышанай канцэнтрацыі людзей з інфантыльнай псыхікай і прэтэнзыяй на «прадвінутасьць» (журналісты «Радыё бі-эй» ды *Вячэрняга Мінску*, сябры БНФ). Афіша ізноў адпавядае сацыяльнаму дыягназу – «Гары Потэр», «Чалавек-павук»...

І канешне, цікава зазірнуць у працоўныя кварталы – няцяжка здагадацца, што кінатэатар «Ракета» паказвае там кіно, разьлічанае хіба на арангутанга з рыдлёўкай («Бляндынка ў законе», «Брацтва ваўка»). Такім чынам, пад шыльдай «агульнанароднага мастацтва» нам упарта ўбіваюць у мозгі: у кожнага ў грамадзтве сваё месца, кожнаму – свая жуйка для мазгоў, і нефіг рыпацца. Калдыры і падлеткі мусяць глядзець сэкс, рабацягі – баявікі, інцялігенцыя – прымітыўную фантастыку. І хрэн вам «Случая з пацаном» або «Амэрыканскай гісторыі Х»!

У апошні момант у галаву прыйшла цікавая думка: якімі фільмамі мусяць кампаставаць мазгі супрацоўнікам газэты *Навінкі*? Бліц-аналіз бліжэйшых кінаафіш адразу выявіў карэляцыю з масавым стэрэатыпам навінкаўца, як істоты якую цікавіць толькі парнуха і бухло – «Кастрычнік» паказваў «Мілашку». І гэта пры глыбокай канспірацыі нашага рэальнага месцазнаходжаньня!.. Ад пэрспэктывы татальнага кантролю над мазгамі грамадзянаў рукі апусьціліся. І самі сабой пацягнуліся да дыску зь ненарматыўным фільмам «Сп*зьдзілі!»... Рэцэнзыя – у наступным нумары ●

# КОМІКС


МІМІНО


...Так віп'ем жэ за малэнькую, но очэнь гордую пцічку
За Вялікім Каўкаскім хрыбтом жыццё йшло сваім ходам. Грузінскія чабаны мірна пілі «Баржомі».


О, рускі генацвале! Захады ў госьці!
Раптам у грузінскім небе паказаўся расейскі бамбардзіроўшчык І...


Прывет ад Пуціна, хе-хе-хе!


Сёньня а 4 гадзіне раніцы без абвяшчэньня вайны расескія полчышча ўторгліся ў Грузію
Кожны грузін мусіць стаць на абарону сваёй Бацькаўшчыны, вах!


РОДИНА-МАТ
ЗОВЁТ, ДА ?!


А тым часам у Маскве ў грузінскай дыяспары...


А 6 ранку ў дзьверы Сванідзэ нехта пагрукаў
15
Вам належыць зьявіцца ў Тбіліскі ваенкамат


ШЕРЕМЕТЬЕВО
ТБИЛИСИ
Нічога не разумею, якое Тбілісі? Я ж карэнны масквіч...


У Тбіліскім аэрапорце навабранцаў Сванідзэ, Кушынашвілі і Меладзэ сустракаў сам прэзыдэнт.


Дзякуй вам, суайчыньнікі, што адгукнуліся на заклік Радзімы
Вы накіраваныя ў узвод пад камандаваньнем генацвале Мміно


Я здэлаю із эціх расейцаў хачапуры!


Здавалася, грузінскім палонным нічога добрага не сьвяціла, як...
Рухай задам кацо!




«Сэ-эра, будут вашы трупы краснымі как віно!..»




Добры дзень. Пачынаем грамадзка-палітычны допыт «Падрабязнасьці»
Я вам нічога не скажу!


Усе, хто супраць прэм'ер-міністра і прэзыдэнта Шэварнадзэ — выяпу кожнага!


Дзякуй за службу. А цяпер спэцзаданьне — трэба ліквідаваць Пуціна. У каго якія меркаваньні?


ЗЕРКАЛО
ПЕСНЯ 2002
БОЛЬШОЙ КУШ


А я прапаную праверанны спосаб.
Чита-дрита-чита Маргарита-вах!




Цяпер вайне будзе канец!


А тымчасам Пуцін знаходзіўся на адпачынку ў Сочы.
Усё толькі пачынаецца!